**ЖЫЛЛЁ:** кошт дамоў і кватэраў у рэгіёне 3

**ВОСЕМ ВОСТРЫХ ПЫТАННЯЎ** да старшыні партыі БНФ Вінцука Вячоркі 4

**С ПЕСНЕЙ ПО ЖИЗНИ** идёт педагог Янина Ивановна Статкевич... 8



# ГАЗЕТА ДЛЯ ВАС

ІВАЦЭВІЧЫ-БАРАНАВІЧЫ-БЯРОЗА-ПРУЖАНЫ-ДРАГІЧЫН-КОБРЫН

выдаецца са студзеня 1997 года | 11 — 17 студзеня 2002 г. | № 2 (317)

# СА СТАРЫМ НОВЫМ ГОДАМ!



**Уважаемые читатели!**

**Для того, чтобы "Газета для вас" в новом году стала ещё интереснее и полезнее, мы решили обратиться к Вам за помощью. С этой целью печатаем анкету с вопросами, на которые просим Вас ответить и выслать свои ответы в редакцию. Можно также просто позвонить в редакцию и высказать свои пожелания. Для тех, кто дополнительно хочет пообщаться с главным редактором Лидией Васильевной ЦЕЛУЙКО, в понедельник, 14 января, с 10.00 до 12.00 будет работать прямая линия по тел. (8-245) 2-12-29.**

**Ждём ваших писем и звонков!**

1. Что Вам нравится в газете?
2. Что не нравится?
3. Каким темам следовало бы уделять больше внимания?
4. О чём Вы хотели бы прочитать в газете, чего у нас не достаёт?
5. Почему Вы выбрали именно "Газету для вас"?
6. Насколько газета соответствует Вашим взглядам и ожиданиям?

# Вам любые до́роги доро́ги?

## Снегопад как средство аттестации дорожных служб

**Заметает зима, заметает... Не правда ли, мы уже как бы и отвыкли от этих зимних удовольствий, от которых лишь дети тешатся. А вот взрослые, особенно автолюбители, "запели" по-иному.**

Взрослые в основном ругаются. Иногда даже матом. Причина? Не выехать из гаража, не завести машину, не проехать по окольным дорогам, которые не чистятся, не посыпаются. Не откопать машину, ночующую на улице и которая к утру больше похожа на зимующего под толстым слоем снега медведя в берлоге. Вроде суетятся дорожники, но проезжая часть асфальтированных дорог больше напоминает большой санный путь.

Вас устраивает состояние наших дорог? С таким вопросом мы было решились обратиться к автолюбителям, как один из них к нам вдруг обратился сам. Говорит **Андрей М.**, житель г. Ивацевичи.

**— Выясни, газета, это правда или нет, что уже сейчас песок и соль закончились, которыми дорогу посыпают, чтобы гололедицы не было. По крайней мере, дороги посыпают, как придётся. Если едешь по Коммунистической улице и вовремя не затормозишь на перекрёстке с улицей Черткова, то можешь прямо с машиной въехать в детскую поликлинику. Дворы переметены настолько, что я на своём "Фольксвагене" два раза за день на "пузо" садился. Еле выполз первый раз, а второй раз, слава Богу, "УАЗик" выволок меня.**

**Ехал в пятницу в Барановичи: "олимпийка" почищена тоже неважно.**

Ситуацию комментирует **Игорь Владимирович СЕГЕНЬ, директор Ивацевичского предприятия по содержанию объектов благоустройства:**

— Ситуация, которую мы имеем нынешней зимой, действительно непростая. За прошедший месяц с небольшим мы израсходовали средств (в частности, песочно-соляной смеси) столько же, сколько за всю минувшую зиму. Уже 90 тонн ушло на тротуары, 160 тонн — на перекрёстки, 200 тонн — на дороги.

Напомним, что наше предприятие занимается только дорогами; расчистка дворов в ведении РЭСП. Я понимаю, что гнев некоторых водителей может иметь место, но понять надо то, что в большой мороз (ниже 10 градусов) соль не разъедает лёд и снег и отдача от неё — минимальная.

То, что в наших силах сделать для города, мы делаем.

●

Таким образом, в городе пусть что-то, но делается.

Но это в городе. Поезжайте в любую из деревень района, пройдите по улицам...

Утопитесь в снегу.

Что и подтверждает письмо, полученное днями из Берёзовского района:

**— Жителям д. Хойники Малечского сельсовета помогите разобраться — кто должен чистить (убирать) дороги от снега, которые в нашей деревне вот уже 4 недели не убираются.**

**Очень тяжело добраться на работу, в магазин, аптеку(высота снежного покрова в некоторых местах более 30-50 см).**

**Председатель колхоза "Малеч" Иван Данилевич указывает на то, что решать вопрос должен сельский Совет. Председатель Совета Виктор Жукович должен, мол, позвонить в местную "вертикаль" (т. е. в Берёзовский райисполком), заказать технику, но ничего этого Виктор Фомич не делает, отвечая, что нет машин и топлива...**

**Иван Николаевич КУЗЬМИЧ,**
**Нина Ивановна ПОЛЕЙКО,**
**Евгения Иосифовна ПОЛЕЙКО,**
**Алексей Иванович КУЗЬМИЧ,**
**Яков Алексеевич КУЗЬМИЧ,**
**Надежда Степановна ПОЛЕЙКО,**
**Регина Александровна ГАМОЛА,**
**Леонид Иванович ПОЛЕЙКО,**
**Николай Тихонович КУЗЬМИЧ,**
**Валентина МАРКОВА,**
**Лидия Ивановна КУЗЬМИЧ,**
**Евгений Николаевич КУЗЬМИЧ,**
**Анатолий Николаевич КУЗЬМИЧ,**
**Анастасия Николаевна КУЗЬМИЧ,**
**Анатолий Николаевич КУЗЬМИЧ,**
**Анастасия Николаевна КУЗЬМИЧ,..**
**всего 15 подписей).**



Александр ГОРБАЧ.

**Типичная картина для нашего региона.**

Вот каким был ответ на это обращение **председателя Малечского сельского Совета Виктора Фомича ЖУКОВИЧА**:

— Снегопады, которые пронеслись в декабре, наделали хлопот, но всё, что мы могли сделать — сделали. Деревня Хойники расположена, скажем так, неудачно; так называемая роза ветров здесь даёт себя прочувствовать на всю силу, и снегу там теперь — по заборы. Потому и грейдер там не помог бы, нужен был бульдозер и (главное!) топливо. Мы смогли "выбить" после Нового года топливо, и на данный момент дороги в Хойниках почти полностью расчищены.

●

Вот это — хорошо. Но вдруг опять снег, вьюга?

**Подготовил Александр ГОРБАЧ.**
**г. Ивацевичи.**

ЧАС РЭСПУБЛІКІ

## Для улады ці для народу?

**У канцы мінулага года Брэсцкі аблвыканкам ухваліў праект бюджэту вобласці на 2002 год. Шматлікія артыкулы гэтага дакумента могуць выклікаць не толькі здзіўленне, але і абурэнне ў шараговага падаткоўца.**

Па прагнозах складальнікаў бюджэту Брэсцкай вобласці на наступны год, толькі ў 3 з 16 раёнаў, а менавіта: у Бярозаўскім, Брэсцкім і Жабінкаўскім, фактычная забяспечанасць мясцовых бюджэтаў уласнымі прыбыткамі набліжаецца да паказніка 100%. Для гэтых раёнаў у абласным бюджэце запланаваны толькі субсідыі на будаўніцтва жытла, у той час як астатнія будуць атрымліваць датацыі розных памераў. Напрыклад, Ганцавіцкі і Маларыцкі раёны змогуць выканаць свой бюджэт за кошт уласных сродкаў толькі на 38 і 35% адпаведна. Не нашмат лепшая сітуацыя ў Драгічынскім, Столінскім і Ляхавіцкім раёнах — там гэты паказнік набліжаецца да 50%.

Не забываюцца кіраўнікі вобласці і на ўласныя патрэбы. Напрыклад, утрыманне аблвыканкаму, яго шматлікіх упраўленняў, аддзелаў і камітэтаў абыдзецца абласному бюджэту амаль у 3 млрд. руб. Гэта ў 1,5 раза больш за суму, запланаваную на прамысловасць, энергетыку і будаўнічы комплекс разам узятыя, і аж у 12 (!) разоў больш за суму, што будзе выдаткавана на навуку. Да таго ж, чыноўнікі своеасабліва разумеюць навуковую дзейнасць — тыя 230 млн., што запланаваны на яе ў бюджэце вобласці, прызначаны выключна дзяржаўным архіўным установам.

Жалю вартыя сродкі, вылучаны на такія артыкулы абласнога бюджэту, як рэалізацыя дзяржаўнай маладзевай палітыкі ды падтрымка малога бізнесу і прадпрымальніцтва. На гэтыя мэты плануецца выдаткаваць усяго толькі 24 і 95 млн. адпаведна. А вось на ўтрыманне і рамонт аблвыканкамаўскага гатэлю — 160 млн. Выдаткі на захаванне гістарычнай спадчыны ў вобласці запланаваны ў памерах 60 млн., што на 10 млн. меней за суму, на якую будзе набыта кампутарная тэхніка для аддзелаў і ўпраўленняў Брэсцкага аблвыканкаму. І гэта ў той час, калі дзесяткі гістарычных помнікаў на тэрыторыі вобласці патрабуюць аднаўлення і прыстойнага ўтрымання. Дастаткова ўзгадаць кляштар бернардынак у Брэсцкай крэпасці, які з кожным годам усе больш і больш занепадае.

Цікава, дарэчы, тое, што адзін дзень святкавання абласных "Дажынак" у праекце бюджэту пераважыў у 3 разы фінансавыя выдаткі на рэалізацыю адукацыйнай праграмы па вывучэнню замежных моваў. Святкаванне абыдзецца бюджэту ў 150 млн. руб., а навучанне замежным мовам — у 3 разы танней. Прыярытэты, як кажуць, відавочныя.

Старасвецкі лозунг "хлебу і відовішч" аўтары абласнога бюджэту інтэрпрытуюць па-свойму. Напрыклад, з пачатку наступнага году прапаноўваецца спыніць кампенсацыю з абласнога бюджэту розніцы ў коштах на хлеб так званых масавых гатункаў. Замест таннага хлеба людзі будуць харчавацца відовішчамі; для гэтага ў кожным раёне будуць адчынены да 10 пунктаў пазыкі відэакасет на базе вясковых кінатэатраў. Трэба меркаваць, відэамагнітафонамі нашы вяскоўцы ўжо забяспечаны.

**Сяргей МІСІЮК, "Радыё Рацыя".**

## Плата за парковку

НЕКОНСТИТУЦИОННА

**Конституционный Суд Беларуси признал не соответствующим Конституции взимание местного сбора за пользование платными автостоянками. Решение принималось в связи с обращениями в суд граждан Новополоцка.**

КС отметил, что установление местных налогов и сборов регулируется только ст. 10 Закона "О бюджете Республики Беларусь на 2001 год", которая не в полной мере обеспечивает регулирование отношений в сфере местного налогообложения. По этой причине неизбежно наличие различных трактовок взимания местных сборов, которые обоснованы лишь формально.

КС в своем вердикте предложил Национальному собранию предусмотреть более полное регулирование отношений в сфере налогообложения при определении местных налогов и сборов и закрепить в "Законе Республики Беларусь на 2002 год" нормы, в соответствии с которыми в будущем была бы исключена возможность взимания местного сбора за пользование платными автостоянками.

**"Главный Бухгалтер".**

## Минюст будет вести

учет предпринимателей

**В Беларуси принято решение о введении Единого регистра юридических лиц и предпринимателей. Согласно постановлению правительства, их учет будет вести Министерство юстиции. Об этом сообщил 6 декабря на прессконференции глава Минюста Виктор Голованов.**

Вопрос Единого регистра в органах власти Беларуси обсуждался много лет. Противников новшества отпугивала возможная перерегистрация структур, в первую очередь, субъектов хозяйствования.

Напомним, что в последние годы по указанию Александра Лукашенко перерегистрация проводилась в стране неоднократно. И ее итоги всякий раз оказывали негативное воздействие на развитие национальной экономики, что сегодня вынужден был признать даже министр В. Голованов: "Я полагаю, что государству уже хватит перерегистраций. Они болезненно действуют на субъекты хозяйствования. . Во время последней кампании треть из них так и не прошла перерегистрацию".

**Информация "Хартии-97".**



## СТРАСЦІ ВАКОЛ ЦУКРУ

**Добры дзень, "Газета для вас". Тэлефануем вам з райсельгастэхнікі. Назваць сябе не можам — могуць пасля быць праблемы з начальствам. А расказаць хочам наступнае.**

**Дзесьці ў сярэдзіне снежня на наша прадпрыемства завязлі цукар, папярэдне паведаміўшы, што цана яго будзе ніжэй за рыначную. Наша прадпрыемства і так працуе няпоўны тыдзень і з трыма выхаднымі, зарплата, адпаведна, невялікая, але адгукнуліся ўсе: цукар бралі мяшкамі.**

**Тым часам, перад самым Новым годам высветлілася, што аплату за цукар возьмуць з лістападаўскай зарплаты, хоць, падкрэслю, цукар завезлі ў снежні. А цана яго... 714 рублёў. Смех дый годзе! На рынку гэты ж цукар можна за 700 рублей купіць. Што гэта за здзекі над чалавекам!?**

**А ў кіраўніцтва прадпрыемства на ўсё адзін адказ: "Не падабаецца — звальняйцеся".**

**А. М., С. В.**

**Вось як тлумачыць сітуацыю Васіль Іванавіч Валанцэвіч, дырэктар ОАО Івацэвіцкая райсельгастэхніка:**

— Не хочацца адказваць на пытанні ананімшчыкаў, але, з другога боку, нам баяцца няма чаго.

Калгас "Любішчыцы", які рэалізаваў нам цукар, па 590 рублёў сам атрымаў яго ў парадку разліку з Жабінкаўскага цукровага заводу. Калгас быў вымушаны павысіць цану на 10 працэнтаў (падатак на дабаўленую вартасць). Атрымалася 650 рублёў.

Мы па закону не маглі рэалізаваць той жа цукар, не павысіўшы зноў цану на 10 працэнтаў (той жа падатак; гэта не наша прыхаць, а патрабаванне ўрада). Атрымліваюцца ўсё тыя ж 714 рублёў. Прадпрыемства на гэтых аперацыях не "навэрылася" ні на капейку. І цукру таго яшчэ пяць тон ляжыць на складзе.

Мы дазваляем работнікам браць зерне, харчавацца ў лік зарплаты. Што можам зрабіць для калектыва — робім.

Як бачыце, тыповая сітуацыя хворай эканомікі. Да праблем рабочых ці ёсць каму справа?

**Падрыхтаваў Аляксандр ГОРБАЧ.**

## Камень преткновения — пень

**БАРАНОВИЧИ.** Жил-был на улице Пионерской старый тополь. До того старый, что его надо было снести. Что коммунальное предприятие "Цветы" и сделало. Да вот беда — пень остался, огромный такой пень, который и стал камнем преткновения. "Цветы" не желают его убирать из-за дороговизны — нужен кран. Жильцы дома № 62 — тоже: хоть и мешает им пень, но не до такой степени, чтобы вкладывать деньги. Вот и кивают на третьих — УПП глухих, дескать, на вашей территории пень, вот и боритесь с ним.

**Галина СТРОЦКАЯ.**

## Лес и радиация

**КОБРИН—ДРОГИЧИН.** На территории четырёх административных районов: Кобринского, Дрогичинского, Малоритского и Жабинковского расположен Кобринский лесхоз, в котором создан пост радиоционного контроля.

Его функция заключается в обеспечении безопасности людей, работающих в лесу, а также населения при посещении лесов и сбора даров леса.

Так, за период с 1.01 по 1.11.2001 г. было проведено 325 проб лесной продукции. Превышение допустимого уровня содержания радионуклидов установлено в 44 случаях (черника, грибы).

Эта продукция почти вся обнаружена в Дрогичинском районе.

Для предупреждения об повышенной радиации установлено 30 предупредительных знаков, 4 стенда, 3 плаката. Было проведено 13 рейдов контроля на лесозаготовках.

На посте радиоционного контроля можно проверять продукцию с личных подворий: мясо, молоко, фрукты и ягоды.

**Нина МАРЧУК.**

## Дзе густа, а дзе і пуста

**ДРАГІЧЫН.** Калі гаварыць канкрэтна, то сёння ў Драгічыне на сто чалавек 36,9 тэлефонных нумароў. Гэта значыць, што 90 працэнтаў сем'яў карыстаюцца гэтым відам сувязі. Па гэтых паказчыках райцэнтр знаходзіцца на другім месцы ў вобласці.

У сельскай мясцовасці ўжо 51,5 працэнта сямей карыстаюцца тэлефонам. Гэта, так сказаць, сярэдняя лічба. А ў некаторых вёсках, на жаль, толькі адзін-два тэлефоны. Згадзіцеся, што зусім мала. Таму толькі ў 2003 годзе будуць пашыраны тэлефонныя сеткі ў Осаўцах і Нямержы, у 2004 — у Гутаве і Вульцы Сіманавіцкай, у 2005 годзе — у Галоўчыцах і Ліпніках. Прыходзіцца чакаць і спадзявацца.

**Галіна ВІКТАРОВІЧ.**

## Завод радыёдэталяў спынены

Усе пайшлі ў водпуск

**ПРУЖАНЫ. Мясцовы завод радыёдэталяў, на якім працуе каля 610 чалавек, спыніў працу. Да 15 студзеня амаль усіх рабочых адправілі ў водпуск за свой кошт.**

Між тым, у Пружанах працягваюць хадзіць чуткі, што водпуск будзе працягнуты і пасля 15-га студзеня. Ці так гэта? **Адказвае Аляксандр Цэбрук, галоўны інжынер прадпрыемства:**

— Пакуль што невядома. Калі матэрыялы для вытворчасці вырабаў будуць знойдзены, а мы зараз рознымі шляхамі "выбіваем" сталь, то прадпрыемства запрацуе, а калі не... Самі разумееце.

**Любоў КРУК.**

## РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

**Цэны на прадуктовых рынках нашага рэгіёну па стану на 9.01.2002 г. (у руб. за адзін кілаграм)**

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны | Драгічын | Кобрын |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Свініна | 3500—4500 | 3500—5000 | 3300—4500 | 3500—4500 | 3500—4000 | 3000—4000 |
| Сала салёнае | 3000—3500 | 3000—3500 | 3000—3500 | 3000 | 3000—3500 | 3000—3500 |
| Алей (1 л) | 1400—1700 | 1350—1600 | 1600—1700 | 1500—1700 | 1500—1700 | 1500—1700 |
| Яйкі (1 дзяс.) | 1400—1450 | 1400—1500 | 1500 | 1500 | 1400 | 1300—1400 |
| Малако (3 л) | 1000 | 800—1000 | 900—1000 | 1000 | 1000 | 1000 |
| Гранаты | 3000—3500 | 3000—3500 | 3000—3500 | 3000 | 3000—3500 | 2500—3000 |
| Масла сметанк. | 2500—3000 | 2500—3000 | 3200 | 3000 | 2500—3000 | 2500—3000 |
| Бульба | — | 150—200 | 150 | — | — | — |
| Цыбуля | 400—500 | 400—600 | 400—500 | 400—500 | 400—500 | 400—500 |
| Какос (1 шт.) | 2000 | 2000 | 2000 | 2000 | 2000 | 2000 |
| Ананас (1 шт.) | 8500 | 8000—9000 | 8500 | 8000—9000 | — | 8000—9000 |
| Памідоры | 3500—4000 | 3500—4000 | 3500—4000 | 3500—4000 | — | 3500 |
| Селядцы | 2000 | 1800—2000 | 1900 | 1800 | 1800 | 2000—2100 |
| Ківі (1 шт) | 250—350 | 280—350 | 400 | 300—350 | 300—350 | — |
| Грэцкія арэхі | 3000 | 2500—3000 | 2500—3000 | 2500—3000 | 2500—3000 | 2500—3000 |
| Яблыкі | 800 | 600—1600 | 450—700 | 450—500 | 450—500 | 500—600 |
| Маянэз (1п.) | 300—460 | 250—420 | 270—420 | 270—450 | 270—520 | 270—460 |
| Вінаград | 2500—4000 | 2500—4000 | 2700—4000 | 2650—4000 | 2650—4000 | — |
| Мандарыны | 2000 | 1800—2000 | 1800—2000 | 1800—2000 | 1800—2000 | 1800—2000 |
| Часнок (1 гал.) | 80—100 | 80—150 | 80—100 | 80—100 | 80—100 | 100—150 |
| Лімоны | 1900—2200 | 1700—2000 | 1600—1900 | 1600—1900 | 1600—1800 | 1600—1800 |
| Апельсіны | 1800—2000 | 1600—2000 | 1700—1800 | 1700—2000 | 1800—2000 | 1600—1800 |
| Бананы | 1500—1800 | 1300—1600 | 1300—1700 | 1500—1700 | 1500—1700 | 1500—1700 |
| Хурма | 2000—4500 | 2100—4000 | 2500—3500 | 2100—4000 | 2100—4000 | 2000—4000 |
| Грэчка | 500—550 | 500—540 | 550—600 | 600 | 550 | 550 |
| Макар. вырабы | 600—700 | 500—650 | 650—750 | 500—650 | 500—670 | 550—630 |
| Рыс | 550—600 | 500—600 | 600—850 | 550—600 | 550—600 | 550—600 |
| Манныя крупы | 560 | 560 | 550 | 540 | 530 | 560 |
| Проса | 380 | 330 | 400 | 400 | 380—400 | 400 |
| Цукар | 700 | 730—750 | 750 | 740 | 700—730 | 700 |
| Мёд | 6000 | 5000-6000 | 5000 | 5000 | 5000-6000 | 6000 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ (руб.)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 1630 | 1650 | 1620 | 1650 | 1630 | 1650 | 1630 | 1650 | 1630 | 1650 | 1630 | 1650 |
| 1 еўра | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 1 рубель Расіі | 52 | 54 | 51 | 53 | 51 | 53 | 51 | 53 | 51 | 53 | 51 | 53 |

# АЦАНІЦЬ КОШТ ЖЫЛЛЯ Ў НАШЫМ РЭГІЁНЕ

## Рэпарцёр атрымаў заданне

**Кошт жылля ў межах рэгіёна, зразумела, неаднолькавы. Цана кватэры з усімі зручнасцямі ў розных гарадах — розная. Кватэра ў Баранавічах каштуе больш, чым падобная ў Белаазёрску, а, з другога боку, кватэра ў Целяханах, Косаве ці Ружанах каштуе больш, чым дом (хата) у вёсках Гічыцы, Ястрабель ці Бездзеж.**

Карыстаючыся шматлікімі аб'явамі, пачынаю з найбольш буйнага горада нашага рэгіёну — з Баранавіч. Аднапакаёвую кватэру ў Паўднёвым мікраёне прадаюць за 4,5—5 тысяч у. а. (у рэшце рэшт, як высветлілася, яе прадалі за 4,5 тысячы у. а.). Двухпакаёвая ў Тэкстыльным мікраёне каштуе ад 6,5 да 7 тысяч у. а.

Разбежка ў цэнах у вялікіх гарадах асабліва вялікая. За трохпакаёвую кватэру ў цэнтры Баранавіч у новым доме на 6-м паверсе (88 — агульная плошча, 52 — жылая, 11,6 — кухня; далей у тэксце такая паслядоўнасць), спасылаючыся на тое, што кватэра вельмі вялікая і пасля еўрарамонту, гаспадыня запрасіла... 25000 у. а. Па яе словах, БТІ (бюро тэхнічнай інвентарызацыі) зрабіла ацэнку кватэры і ацаніла яе кватэру ў 28000 у. а. У той жа час стартавая цана за трохпакаёвую кватэру па вул. Паркавай (63х39х8; метраж кватэры, сапраўды, намнога меншы, чым вышэйзгаданай) складае 9800 у. а., чатырохпакаёвай (81х49х8) — 10500 у. а.

За дом у Баранавіцкім раёне (10 км ад горада; вёска Замошша, агарод — 42 соткі) папрасілі 1000 у. а.

ХХХ

Звернемся да Івацэвічаў. Найбольш часта сустракаемыя аб'явы — гэта продаж так званых маласямеек. За аднапакаёвую з вялікім пакоем (20 м²) просяць 3000 у. а. Можна патаргавацца.

За двухпакаёвую па вул. Дэпутацкай (жылая плошча 17 і 10 м²; кухня — 8 м²) просяць 4000 у. а. Саступяць не болей 200 у. а.

Аднапакаёвая кватэра звычайных памераў каштуе каля 3,5 тысяч у. а. Двухпакаёвую па вул. Шаўчэнкі, 10 (2 паверх, 40х28х8) прадалі за 4,7 тысяч у. а.

Трохпакаёвую кватэру па вул. Дэпутацкай (67х47х9) у панэльным доме прадаюць за 7,5 у. а. Чатырохпакаёвую па вул. 60 год Кастрычніка (каля гарадской бані) на другім паверсе, з тэлефонам (80х49х9) прадаюць за 8 тысяч у. а. За чатырохпакаёвую па вул. Шаўчэнкі (86х54х9,5), дзе і балкон, і лоджыя абшыты вагонкай, дзе плітка на кухні, у ваннай і туалеце пакладзена да столі, просяць 9,5 тысяч у. а. Можна таргавацца? Канешне!

За дом па вул. Кірава (каля РТМА) просяць 10000 у. а. Тут чатыры пакоі, вада падведзена, але газ — не. Ацяпленне — кацёл. Тут новыя хлеў і гараж, крыху недабудаваная баня.

За новы двухпавярховы катэдж па вул. Гука (непадалёку ад магазіна "Гаспадарчыя тавары"), што па вул. Клютко, з усімі выгодамі просяць 15000 у. а. Катэдж, паведамляюць, давядзены да толку і толькі касметычныя работы патрабуюцца тут.

За двухпакаёвую кватэру ў Косаве (блочны дом; 55х30х8) просяць 3,5—4,0 тысячы у. а. За дом у Косаве, якому 30 гадоў (без зручнасцяў), ёсць калодзеж, хлеў, гараж, надзел — 12 сотак, просяць 2,5 тысячы у. а.

За трохпакаёвую кватэру ў Целяханах (64х58х8,5) на трэцім паверсе трохпавярховага дома папрасілі 3300 у. а.

За дом у вёсцы Заполле (пляц — 58 сотак) просяць 1,5 тысячаў у. а.

ХХХ

Звернемся да Бярозаўшчыны. Катэдж двухпавярховы, дзе агульная плошча каля 200 м², жылая — 140 м², чатыры пакоі, а кухня — 12 м² (вул. Юбілейная, каля СШ № 2), каштуе каля 20 тысяч у. а. Гаспадар паведаміў, што торг можа мець месца.

За чатырохпакаёвую кватэру ў тыповым панэльным доме па вуліцы Горына-Каляды (2 паверх, дому — каля 15 гадоў, агульная плошча 86 м²) просяць 10 тысяч у. а. Двухпакаёвую ў новым Паўночным мікраёне нядаўна прадалі за 7300 у. а.

За вялікую двухпакаёвую кватэру ў г. Белаазёрск, дзе агульная плошча 57 м², а кухня 12 м², просяць 5300 у. а. Палову дома ў в. Першамайская (два пакоі, кухня, веранда, надзел — 5 сотак) ацанілі ў 1000 у. а.

Дом у в. Здзітава (як паведаміла гаспадыня, 20 мінут язды на веласіпедзе ад Белаазёрска), дзе вялікі агарод, сад, вінаград, два хлявы, летняя кухня, два склепы, калодзеж, дроў на дзве зімы (ацяпленне пячное) каштуе 2000 у. а. Гаспадыня адразу ж прапанавала патаргавацца...

ХХХ

Як бачыце, калі гаварыць пра кошт жылля ў рэгіёне, трэба адзначыць, што яна вагаецца ў залежнасці ад населенага пункта. Так, жыллё ў Баранавічах каштуе крыху больш, чым у Бярозе ці Кобрыне, а ў апошніх крыху больш, чым у Івацэвічах, Белаазёрску, Драгічыне ці Пружанах.

Значна ніжэй кошт жылля ў тых населеных пунктах, якія носяць назву пасёлкаў або гарадоў, але маюць невялікую колькасць насельніцтва. Размова ідзе пра Целяханы, Косава, Ружаны, Антопаль. Што тычыцца продажу жылля ў вёсцы, то тут градацыя ідзе не ад метражу ці, так бы мовіць, узросту дома, а ад месцазнаходжання.

Вёскі, якія знаходзяцца побач з райцэнтрам ці буйным горадам, аблашчаны ўвагай спажыўца. Дом дзенебудзь за 30—50 кіламетраў ад райцэнтра прадаць за больш-менш сур'ёзную цану проста немагчыма: у тых жа вёсках вялікае мноства хат, дзе ўжо даўно ніхто не жыве і куды, дай Бог, хто-небудзь можа быць і паселіцца.

**Аляксандр ГОРБАЧ.**

# Знакомьтесь: шахматный чемпион

Он появился в конце ушедшего года в г. Берёза. По результатам городского чемпионата, проводившегося с сентября по декабрь, им стал Чеслав Петрович Карецкас. Второе место занял В. А. Друщиц и третье — В. И. Юдицкий.



Николай СИНКЕВИЧ.

Шахматный чемпион г. Березы Чеслав Карецкас.

Приятно порадовала подрастающая смена шахматистов. На уровне взрослых в чемпионате участвовали восьмиклассник Сергей Антонов, СШ № 2 г. Берёзы, и шестиклассник Константин Васильев из той же школы, показав весьма неплохие результаты.

15-16 декабря в г. Берёза прошёл турнир памяти Н. В. Рыжкуа с участием ведущих шахматистов г. Ивацевичи. Места распределились следующим образом:

1. Е. А Солунин (Берёза).
2. Е. П. Попко (Берёза).
3. А. С. Сычик (Белоозёрск).
4. Г. Б. Будилович (Ивацевичи).
5. В. А. Денисевич (Ивацевичи).
6. Г. М. Левчук (Ивацевичи).

В последнее воскресенье декабря 2001 г. стали известны сильнейшие игроки города по блицу. Места среди тройки призёров распределились следующим образом:

1. Е. П. Попко
2. Ч. П. Карецкас
3. В. А. Друщиц

На середину января 2002 г. в г. Берёза запланирован уже районный чемпионат.

**Николай СИНКЕВИЧ.**

# Новае ў праходжанні тэхагляду, але не ўсюды

**КОБРЫН.** Аб новаўвядзенні, якое з новага года плануецца ажыццявіць у двух раёнах нашай рэспублікі — Кобрынскім і Мінскім, — мне расказалі супрацоўнікі ДАІ.

Не хвалюйцеся! Змяненні закрануць толькі адну пазіцыю.

Ужо куплена, але пакуль не ўстаноўлена дыягнастычная ўстаноўка на прадмет прыгоднасці аўтамабіляў да карыстання ў цэлым.

Але, не ўдаючыся ў падрабязнасці, аб іх я раскажу, калі выпрабую там свой уласны аўтамабіль, скажу, што "дзякуючы" навізне, усе "Запарожцы", "Масквічы", "ВАЗы" першых мадэляў і старыя іншамаркі, безумоўна, не атрымаюць "дабро" на эксплуатацыю.

Дрэнна гэта ці добра — пакажа час.

**Ніна МАРЧУК.**

# Чыгуначны вакзал

## пабудаваны нядаўна ў Драгічыне

Чакалі яго доўга. Бо чыгуначны прыпынак не задавальняў многіх жыхароў Драгічына і раёна. І вось пытанне вырашылася. Палову сродкаў на будаўніцтва выдзеліла беларуская чыгунка, а другую палову — прадпрыемствы, арганізацыі раёна. Узводзіла будынак вакзала перасовачная механізаваная калона № 8 (начальнік А. І. Сенькавец).



Святаслаў КАЖАДУБ.

Трэба зазначыць, што будоўля цягнулася нядоўга, і зараз вакзал прыцягвае ўвагу пасажыраў, бо тут ёсць усе выгоды для тых, хто ад'язджаюць і прыязджаюць у райцэнтр.

**Святаслаў КАЖАДУБ.**

# Несмешная "шутка"

**БЕРЕЗА. Не дают покоя лавры террориста № 1 Усамы бен Ладена некоторым нашим согражданам. Поцекотать нервы, знаете ли, хочется, а получается скорее всего — просто обычная глупость.**

Восьмого декабря около полудня в дежурную часть РОВД г. Бреста поступило телефонное сообщение от оператора почтового отделения связи № 13. Оказалось, что при штамповке полученной почты из конверта, пришедшего, согласно обратного адреса, из г. Берёзы, высыпалось порошкообразное вещество зеленоватого цвета. А на самом конверте обнаружена угрожающая надпись "Содержимое находится под высоким давлением. При вдыхании опасно для здоровья".

В течение часа названное почтовое отделение было эвакуировано, вызваны сотрудники областного центра гигиены и эпидемиологии, МЧС, УКГБ и Московского РОВД. Конверт незамедлительно отправили на экспертизу, в результате которой выяснилось, что зловещим зеленоватым порошком было содержимое обычной капсулы витаминов "Green Star", положенной в письмо вместе с таблеткой активированного угля. Неудавшейся же "террористкой", как выяснило расследование, была семиклассница одной из школ г. Берёзы Ольга С. Она таким образом решила пошутить над своей подружкой из Бреста, не предполагая, что из этого может получиться. К сожалению, трагедия, произошедшая в Америке, ничему не учит, раз у нас происходят такие бездумные шутки.

**Николай СИНКЕВИЧ.**

# Навагоднія ... трагедыі

**ІВАЦЭВІЧЫ—БЯРОЗА. Навагоднія святкаванні сёлета, на вялікі жаль, не абыйшліся без вогненных здарэнняў і трагедый.**

Познім вечарам 2 студзеня адбыўся пажар у адной з кватэр шматпавярховага дома па цэнтральнай вуліцы Івацэвічаў. У выніку — моцна пашкоджаны жылы пакой і маёмасць у двухпакаёвай кватэры Мядзведскіх. Загінуў сын гаспадыні Сяргей Дзмітрыевіч, 1959 г. н. Прычынай трагедыі паслужыла неасцярожнае курэнне цыгарэты самім загінуўшым, які знаходзіўся ў нецвярозым стане. Гаспадыні дома не было, яна жыве ў вёсцы.

Усяго за першыя сем дзён Новага 2002 года ў Брэсцкай вобласці ў полымі пажараў загінулі 16 чалавек. Так, вечарам 7 студзеня ў жылым доме пенсіянеркі Марыі Кавальчук з в. Маневічы Бярозаўскага раёна здарыўся пажар. Яго полымя пазбавіла жыццяў гаспадыню дома, яе двух унучак — дзяўчынак 4-х і 2-х гадоў. Маці дзяўчынак (нявестку гаспадыні) удалося выратаваць. Прычынай гэтай трагедыі аказалася ёлачная ілюмінацыя, якая засталася ўключанай і пакінутай без нагляду.

**Валерый МОЛАШ.**

# ЖЭК рекомендует: на балконы не выходить!

**БАРАНОВИЧИ.** Это действительно так. И так рекомендуют жителям г. Барановичи специалисты городского ремонтно-эксплуатационного объединения жилищно-коммунального хозяйства.

Но это касается не всех. После случая летом 2001 г., произошедшего в г. Кобрин, когда получили смертельные травмы четверо человек, упавших вместе с балконом с четвертого этажа жилого дома, специалисты соответствующей службы города обследовали все здания, построенные до 1970 года, и пришли к выводу, что все они требуют срочного ремонта. А это порядка 1300 балконов. И стоит это больших денег. Пока всю работу по ремонту разбили на пять лет, запросив денег.

А жильцам предложили с опасных балконов убрать тяжести, разобрать застекленные рамы, чтобы уменьшить нагрузку на конструкции.

**Нина МАРЧУК.**

 



# ВОСЕМ ВОСТРЫХ ПЫТАННЯЎ да старшыні партыі БНФ Вінцука Вячоркі



Вінцук Вячорка аптымізму па-ранейшаму не губляе.

**4 студзеня 2002 года г. Бярозу наведаў Вінцук Вячорка — старшыня шырокавядомай партыі Беларускі Народны Фронт. Прадстаўнік беларускага апазіцыйнага істэблішменту сустрэўся з грамадскасцю і сябрамі мясцовых дэмакратычных аб'яднанняў, а таксама згадзіўся адказаць на восем няпростых для яго пытанняў Вашага карэспандэнта.**

## 1

**— "Страшно далеки они от народа". Ці не знаходзіце Вы гэтую фразу цалкам падыходзячай для сябе? Я маю на ўвазе, папершае, тое, што лідэраў беларускай апазіцыі можна часцей сустрэць у Жэневе ці Боне, чым, напрыклад, у Бярозе ці Івацэвічах, не кажучы ўжо пра вёскі. І, па-другое, рэйтынг і папулярнасць, а значыць — і ўплыў БНФ у сённяшнім беларускім грамадстве, можна сказаць, невысокі.**

— Я за паўтара года наведаў 52 гарады і мястэчкі Беларусі, ад захаду да ўсходу, таму думаю, што з няменшым правам, чым той жа самы Аляксандр Лукашэнка, магу сказаць: "Краіну свою ведаю!" Што да Жэневы ці Бона, то і там былая таксама трэба. Калі туды не пускаюць А. Лукашэнку, то трэба, каб нехта там быў і рыхтаваў глебу для таго, каб Беларусь у хуткім часе была ўсё ж прынята ва ўсе еўрапейскія і еўраатлантычныя структуры, каб да нас пайшлі інвестыцыі, крэдыты, каб мы былі прынятыя ў сусветныя фінансавыя інстытуты і хутка выбраліся з таго крызісу, у які нас гэтая ўлада загнала. Наконт рэйтынгу і папулярнасці Фронту скажу з гонарам, што мы маем абсалютны рэйтынг паводле ацэнкі незалежнага сацыяльна-эканамічнага і палітычнага дасследавання, і гэта пацверджана амерыканскімі сацыёлагамі, якія ўлетку праводзілі ў нас замеры. Наш рэйтынг парадку 19%, ён меншы толькі за рэйтынг Камуністычнай партыі. Гэта цалкам нармальна. Калі б у нас сёння былі выбары па прапарцыйнай сістэме, часткова так, як у расійскую Думу, то ў нас была б парламенцкая фракцыя працэнтаў у трыццаць пяць.

## 2

**— Пасля траскучага правалу на прэзідэнтскіх выбарах згодна правіл добрага тону беларускія лідэры дэмакратычных партый павінны былі б пайсці ў адстаўку, як гэта звычайна робіцца ў цывілізаваных краінах. У нас такога не назіралася. Болей таго, Вінцук Вячорка зноў вылучацца і быў пераабраны на пасаду кіраўніка БНФ. Ці не адраджаюцца ў нас такім чынам "добрыя традыцыі" савецкіх генсекаў?**

— Мяне цяжка абвінаваціць у "генсекаўстве" хаця б таму, што ў 1999-м годзе ў Фронце была вернутая калектыўная форма кіравання і прыняцце рашэнняў толькі на падставе экспертыз, глыбокага і ўсебаковага аналізу. З таталітарызмам у нашай арганізацыі тады было пакончана. Гэта я заношу ў актыў кіраўніцтва, якое было ў Фронце з 1999-га года. Што датычыцца выбараў, то на іх не было траскучага правалу беларускай апазіцыі. Таму што не было выбараў. Быў спектакль, аплочаны і зрэжысаваны сіламі, варожымі беларускай незалежнасці. Калі параўноўваць нашыя восеньскія выбары з чымсьці іншым, то я параўнаў бы іх з дастаткова працяглым, у шмат раўндаў, баксёрскім паядынкам, з якога абодва бакі выйшлі даволі моцна пабітыя. Так, мы не дасягнулі пастаўленай мэты, але і ўладны рэжым палітычна і эканамічна таксама церпіць крах. Заўважце, што не прайшло і двух з паловай тыдняў пасля 9-га верасня, як спыніўся з прычыны нявыплаты заработнай платы Мінскі трактарны завод. Гэта значыць, што ўсе фінансавыя рэсурсы ў дзеючай улады, як кажуць, "на падсосе". Па-другое, Аляксандр Лукашэнка аказаўся ў жудаснай, і, на жаль, небяспечнай для нашай незалежнасці, падданасці ад расійскіх алігархаў, якія дамагаюцца цяпер ад яго здачы беларускай маёмасці. Ён гэтага не хоча, і зараз добра відаць, у якой ён знаходзіцца нявыкрутцы. Мы будзем працягваць змаганне. А для таго, каб яго працягваць, мае сябры і калегі прапанавалі мне і бальшыні Фронту застацца пры гэтага стырна. Адразу скажу, што стырно гэта не такое лёгкае і радасцяў яно ніякіх не прыносіць.

## 3

**— Каму б сёння з беларускіх палітыкаў Вінцук Вячорка ўступіў сваё месца старшыні БНФ?**

— Лявону Баршчэўскаму.

## 4

**— Пасля прэзідэнцкіх выбараў у прэсе з'явіліся скандальныя артыкулы Аляксандра Фядуты і Барыса Гунтара, у якіх раскрываецца несумленнасць беларускіх апазіцыйных лідэраў у іх адносінах да сяброў з Захаду. У прыватнасці, там сцвярджаецца, што вялікія сумы грошай, выдаткаваных на правядзенне перадвыбарчай кампаніі, аселі ў кішэнях гэтых самых лідэраў. Як вы можаце пракаменціраваць гэтыя скандальныя выкрыцці?**

— Каб такое адбылося сапраўды, я, відаць, прыехаў бы сюды на шэсцісотым "Мэрсэдэсе", а прыехаў я на самой справе ў звычайнай электрычцы. Але гэта жарт. Самае відавочнае для ўсіх тых, хто назіраў за распаленым Аляксандрам Фядутам і Мікалаем Статкевічам скандалам у прэсе, гэта тое, што скандал з'явіўся менавіта тады і менавіта дзеля таго, каб перасварыць, спляжыць беларускія дэмакратычныя сілы. Ніводзін доказ Аляксандр Фядута так і не прывёў і не прывядзе. Віктар Івашкевіч, адзін з тых, на каго Фядута напаклёпнічаў, падаў на яго ў суд гонару Беларускай асацыяцыі журналістаў, у якой Фядута дагэтуль знаходзіцца. Аляксандр Фядута не прыйшоў на гэты суд гонару, а толькі прасіў перадаць, быццам бы ён меў на ўвазе толькі тое, што перадвыбарчая палітыка дэмакратычных сілаў была няправільнай, не зусім эфектыўнай і гэтак далей. Усе паслявыбарчыя "сенсацыйныя" выкрыцці — гэта быў проста сцэнар, магчыма, прапісаны не ў Мінску. І ён ганебна лопнуў.

## 5

**— У мяне ў руках бюлетэнь "Каліва" №13 за верасень 2000 г. На вокладцы даецца Вашае тагачаснае выступленне ў Брэсце пад загалоўкам "Гарачая восень-2000 павінна вырашыць усё". Прайшла восень-2000, 2001, і што вырашана? Наколькі палітык, кіраўнік партыі, можа даваць такія галаслоўныя прагнозы? І ўвогуле, на якія інфармацыйныя і аналітычныя крыніцы Вы абапіраецеся ў падрыхтоўцы сваіх прагнозаў?**

Па-першае, палітык павінен бачыць аптымістычную перспектыву, а не заганяць сябе, сваю партыю, грамадства ў песімістычны тупік. Трэба ўмець натхняць людзей. Па-другое, у 2000 годзе, нагадаю, адбыліся і масавыя вулічныя акцыі, і агульнабеларускія сінхронныя акцыі, звязаныя з тым жа байкотам у дваццаці чатырох гарадах адначасова. Такога ніколі ў нас не было раней. Пасля 1996-га года якраз падзеі 2000 года паказалі, што беларуская незалежніцкія сілы, калі яны аб'яднаныя, здольны выводзіць на вуліцы дзесяткі тысяч людзей. На вялікі жаль, настроі грамадства нагадваюць хвалю: яны то вымушаюць выходзіць людзей на вуліцы, то махаць на ўсё рукой. Мы яшчэ пабачым мітынгі ў дзесяткі тысячаў на вуліцах Мінска. Праблема вырашыцца тады, калі энергія сацыяльнага пратэсту пяройдзе ў энергію пратэсту палітычнага. А грунтуемся мы на лічбах сацыялагічных служб, як беларускіх, так і замежных, у тым ліку амерыканскіх, што працуюць у Беларусі. Рэгулярна праводзім "мазгавыя штурмы" з запрашэннем псіхолагаў, сацыяльных псіхолагаў і спецыялістаў па палітычнай рэкламе. Мы гэтым пачалі займацца аднасна нядаўна, недзе года паўтара таму. Я спадзяюся, што наступныя нашыя крокі будуць болей прафесійнымі.

## 6

**— Ці не падаецца Вам, што назва "Беларускі Народны Фронт" не зусім удалая, калі не сказаць болей? У памяці людзей яшчэ не сцёрся фронт 1941-45 гг. і яны проста баяцца гэтага слова.**

— Гэта сітуацыя, як з тым цыганом: "Ці гэтых дзяцей адмыем, ці новых народзім." Калі цяпер думаць пра змену назвы Беларускага Народнага Фронту, калі няма свабоды тэлевізіі, свабоды радыё, агульнадаступнай свабоднай прэсы — гэта азначае пертварыцца ў нікому невядомую маргінальную структуру. Я ўжо сказаў, што ў нас ёсць рэальны рэйтынг, рэальная вядомасць. Людзі, калі чуюць, што нехта выходзіць змагацца за незалежнасць, кажуць: "Гэта бэнэфаўцы выйшлі". І самае важнае тут для нас — не дапускаць надалей паразаў, паказаць людзям, што мы дбаем не толькі пра высокія палітычныя матэрыі, але і пра іхняе штодзённае жыццё. Каб яны пабачылі, што бэнэфаўцы бароняць і лёс нашай краіны, і лёс кожнага чалавека. Я ганаруся назвай "Беларускі Народны Фронт", і я не думаю, што нам яе трэба мяняць ва ўгоду нейкай кан'юнктуры.

## 7

**— Якую адзнаку Вы паставілі б сабе асабіста за 2001 год?**

— Тройку з плюсам.

## 8

**— Вы патрыёт?**

— Мне здаецца, што само слова "фронтавец" з'яўляецца сінонімам слова "патрыёт", прычым, гэта патрыёт адказны. Той, які не проста трубіць, што ён любіць Бацькаўшчыну, а і яшчэ спрабуе нешта для яе рабіць.

**— У такім разе, як бы Вы пракаменціравалі выказванне Бенджаміна Франкліна: "Патриотизм — последнее прибежище негодяев"?**

— Гэта тыповая падмена паняццяў, звязаная з тым, што імперскі шавінізм часта называюць патрыятызмам. Мы добра ведаем, што ў цяперашняй расійскай завядзёнцы патрыятычнай прэсай і патрыятычнымі сіламі называюць газету "Завтра", Эдзіка Лімонава, імпэрыялістаў. Іх называюць патрыятычнымі альбо камуна-патрыятычнымі сіламі. У гэтым сэнсе з Бенджамінам Франклінам можна абсалютна пагадзіцца. Пабачце, у нас ідзе гаворка пра патрыятызм шмат стагоддзяў паняволеных, пра патрыятызм тых, хто адраджае дзяржаўнасць сваёй Бацькаўшчыны, хоча гэтую дзяржаўнасць зрабіць цывілізаванай, дэмакратычнай і паважанай у свеце. Гэта проста абсалютна розныя рэчы.

**— Дзякуй за адказы!**

— Пытанні сапраўды былі вострымі.

### Дасье "Газеты для вас"

**Вінцук ВЯЧОРКА.** Старшыня БНФ "Адраджэнне" і Партыі БНФ.

Нарадзіўся 7 ліпеня 1961г. у г. Брэст. Закончыў філфак БДУ і аспірантуру НАН Беларусі. Працаваў у Мінскім педагагічным універсітэце, нам. гал. рэдактара часопіса "Спадчына".

У 1979 г. удзельнічае ў заснаванні "Беларускае майстроўні" — нефармальнай арганізацыі маладых беларускіх патрыётаў. Лідэр згуртавання "Талака", якая ў 1987 г. развілася ў "Канфедэрацыю беларускіх суполак" — першую агульнанацыянальную структуру патрыятычных арганізацый. Яна стала ў 1988 г. арганізацыйнай асновай БНФ, а В. Вячорка — адным з заснавальнікаў Фронту.

З 1994 г. — намеснік старшыні БНФ "Адраджэньне" і Партыі БНФ.

На VI з'ездзе БНФ "Адраджэньне" і IV з'ездзе Партыі БНФ у кастрычніку 1999 г. абраны старшынёй, а ў снежні 2001 г. яшчэ раз пераабраны на гэтую пасаду. Жонка Ірына — матэматык. У сям'і Вячоркаў трое дзяцей.

Паласу падрыхтаваў **Мікалай СІНКЕВІЧ**, фота аўтара.

 

